Гродна
№2 (531),
26 студзеня 2020

www.slowo.grodnensis.by

Слова Жыцця
ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Жыццё ўпоўні









**2 ЛЮТАГА МОЛІМСЯ ЗА ТЫХ, ХТО НЯСТОМНА НЯСЕ ВАРТУ НЯБЕСНАМУ АЙЦУ, ДА КАГО МОЖАМ У ЛЮБЫ ЧАС ЗВЯРНУЦЦА З ПРОСЬБАЙ АБ МАЛІТВЕ З УПЭЎНЕНАСЦЮ, ШТО ЯНА БУДЗЕ ПРАМОЎЛЕНА. МАНАСКІЯ АСОБЫ – АДДАНЫЯ СЛУГІ БОГА І БЛІЖНЯГА, ЖЫЦЦЁ ЯКІХ ЗАЎСЁДЫ ЗАСТАЕЦЦА ДЛЯ НАС ТААМНІЦАЙ.**

● працяг на с. 5

**“Кансэкраванае жыццё – гэта не выжыванне, гэта новае жыццё”. Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**III ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мц 4, 12–23**

Калі Езус пачуў, што Яна зняволілі, адышоў у Галілею. І, пакінуўшы Назарэт, прыйшоў і пасяліўся ў Кафарнауме прыморскім, у межах Забулона і Нэфталія. Так збылося сказанае прарокам Ісаям, які кажа: "Зямля Забулонава і зямля Нэфталіева, на шляху марскім, за Ірданам, Галілея язычнікаў, народ, які сядзеў у цемры, убачыў святло вялікае, над жыхарамі краіны смяротнага ценю зазззяла святло". З таго часу Езус пачаў прапаведаваць і казаць: "Пакайцеся, бо наблізілася Валадарства Нябеснае".

Калі Езус праходзіў каля Галілейскага мора, Ён убачыў двух братоў: Сымона, якога называлі Пятром, і ягонага брата Андрэя, якія закідвалі сеткі ў мора, бо яны былі рыбакамі. І сказаў ім: "Ідзіце за Мной, і Я зраблю вас рыбакамі людзей". Яны ж адразу, пакінуўшы сеткі, пайшлі за Ім. Калі адтуль пайшоў далей, убачыў іншых двух братоў: Якуба Зэбэдэевага і Яна, брата ягонага, якія ў чоўне з бацькам іхнім Зэбэдэем ладзілі свае сеткі, і паклікаў іх. А яны адразу пакінулі човен і бацьку свайго і пайшлі за Ім. Езус хадзіў па ўсёй Галілеі, навучаючы ў сінагогах іхніх і абвяшчаючы Евангелле Валадарства. Ён лячыў усялякую хваробу і ўсялякую немач у людзей.

### ЕЗУС – ШЛЯХ НАВЯРТАННЯ

Кожнаму чалавеку неабходна навяртанне. Навярнуцца – значыць распачаць жыццё нанова, разам з Богам, згодна з Яго воляй. Навярнуты – гэта той, хто даручыў Пану назаўсёды не толькі ўсё, што мае, але і ўсяго сябе; гэта той, хто паставіў Збаўцу на першае месца і аддана стараецца дасягнуць святасці. Справа датычыць і выпраўлення ад лёгкіх грахоў, штодзённых слабасцей, якія абцяжарваюць на шляху ў Божае Валадарства.

Каб наблізіцца да Усемагутнага і перамяніць сваё жыццё, трэба заўважыць Езуса, які праходзіць побач, і пачуць Яго прапанову: "Ідзіце за Мной!" (Мц 4, 19). Так Хрыстос указвае нам шлях навяртання. Праз гэты заклік Бог працягвае чалавеку дапаможную далонь. Хто рашаецца пайсці за Ім, павінен пакінуць усё, разбурыць сцены, якія аддзяляюць ад Бога, адкінуць грэх і тое, што да яго вядзе.

Езус кожнага з нас запрашае прыняць мужнае рашэнне аб навяртанні. Не трэба баяцца! Пан лечыць любыя хваробы і слабасці, а таксама ўздымае на духу ўсіх, хто прагне перамяніцца і крочыць Яго шляхам.

**Ці гатовы я стаць на дарогу ачышчэння?**
**Якія маю адносіны з Богам?**

**СВЯТА АХВЯРАВАННЯ ПАНА**
**Лк 2, 22–32**

Калі мінулі дні іх ачышчэння паводле Закону Майсея, бацькі Езуса прынеслі Яго ў Іерусалім, каб прадставіць перад Панам, як напісана ў Законе Пана, што кожнае першароднае дзіця мужчынскага полу павінна быць прысвечана Пану; каб прынесці ў ахвяру, як сказана ў Законе Пана, пару туркавак або два галубкі. Жыў у Іерусаліме чалавек, імя якога Сімяон. Быў гэта чалавек праведны і пабожны, які чакаў суцяшэння Ізраэля, і Святы Дух спачываў на ім. Адкрыў яму Святы Дух, што ён не ўбачыць смерці, пакуль не ўбачыць Месію Пана. І прыйшоў, натхнёны Духам, у святыню. І калі бацькі прынеслі Дзіця Езуса, каб учыніць з Ім паводле звычаю Закона, ён узяў Яго на рукі, блаславіў Бога і сказаў: "Цяпер адпускаеш слугу Твайго, Валадару, паводле слова Твайго, у спакоі; бо вочы мае ўбачылі збаўленне Твае, якое падрыхтаваў Ты перад абліччам усіх народаў: святло для асвятлення язычнікаў і хвалу народа Твайго Ізраэля".

### МАРЫЯ – ПРЫКЛАД АХВЯРАВАННЯ

Бог нястомна прамаўляе да чалавека пра сваю любоў мовай жэстаў. Аб ёй сведчыць уцелаўленне, нараджэнне ва ўбогай стайні, шматлікія аздараўленні цярпячых, перамяненне на гары Фавор, абмыццё ног апосталам, устанаўленне Эўхарыстыі, укрыжаванне, уваскрасенне... Гэтую Боскую мову жэстаў выдатна разумее Марыя. Новы Запавет паказвае, як ад моманту звеставання ажно да крыжа, уваскрасення і спаслання Святога Духа Беззаганная ўслухоўваецца ў Слова Бога і адказвае на яго. Паміж Імі нараджаецца дыялог любові, які працягваецца і сёння.

Найсвяцейшая Панна Марыя, становячыся Маці Езуса, ведае, што Яе Сын цалкам належыць Богу. У пакорным жэсце любові ахвяруе Яго Айцу ў святыні. Прароцтва Сімяона пра меч, які пройдзе праз сэрца Маці, нібы наводзіць на думку, што Марыя страціць свайго Сына. І сапраўды, у будучым Яна становіцца сведкам страшнай смерці Хрыста. Аднак зноў знаходзіць Езуса, ужо ўваскрослага, каб пазней быць Ім унебаўзятай.

Папросім Беззаганную, каб навучыла нас аддаваць Богу – у жэсце любові і даверу – усё добрае, што мы ад Яго атрымалі, каб мы сталі вольнымі і здолелі любіць Пана не з-за Яго дароў, але з-за Яго самога, прагнучы адказваць на Яго любоў узаемнасцю.

**Ці здольны я аддаць Пану Богу ўсё?**
**Як ахвяруюся для іншых людзей?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Быць падобным да Бога

*Кансэкраванае жыццё – гэта жыццё, прысвечанае Пану ў выключную ўласнасць, у глыбокай блізкасці для Бога і Яго Любові.*

Манахі, манахіні, а таксама асобы, якія жывуць у свецкіх інстытутах, – гэта простыя людзі, узятыя з нашых сем'яў і парафіяльных супольнасцей. Яны з любоўю адказалі згодай на голас Бога, робячы адважны выбар: адрачыся ў імя Айца і Сына, і Святога Духа ад радасці і клопатаў сямейнага жыцця, ад дару сужэнства, часам таксама ад прафесіі і ў шырокім сэнсе разуметай самарэалізацыі, ад усякага валодання на карысць жыцця паводле евангельскіх парад. Яно абумоўлена жаданнем прыпадабнення да Хрыста чыстага, усім сэрцам, усёй душою і ўсім розумам звязанага з Айцом; убогага, які валодае тым, што належыць Богу, нічога не маючы ва ўласнасці, каб быць вольным, адкрытым на Провід і міласэрным да людзей; пакорнага, які праз поўную любові паслухмянасць заслужыў нам збаўленне.

З упэўненасцю можна прызнаць, што не чалавек выбірае Бога, а Бог выбірае і заклікае чалавека. Ведаючы нас лепш, чым мы самі, Стварыцель заўсёды прапануе найлепшае. Разам з тым, пакідае людзям вольнасць, падказваючы чула і адначасова з глыбокай павагай.

Трэба разумець, што няма "лепшага", "горшага" ці "больш узнёслага" паклікання. Кансэкраваныя асобы былі выбраны Богам не з-за надзвычайных якасцей ці звышнатуральнай набожнасці. Запрашаючы пэўную асобу на манаскую паслугу, Пан перакананы, што такім чынам яна здолее дасягнуць падабенства з найлепшымі сярод людскіх Сыноў.

**Дарагія Чытачы!**

**Молімся за ўсіх кансэкраваных асоб, якія служаць у нашым Касцёле, каб згодна са сваёй харызмай яны сведчылі пра любоў Бога да чалавека і ўласным жыццём узнаўлялі дух першай супольнасці вучняў Хрыста (параўн. Дз 4, 32). Молімся адзін за аднаго, каб выканалі волю Бога, бо ў ёй утоены скарб. У ёй знойдзем шчасце, нават калі наша жыццё напоўнена досведам вялікіх намаганняў і цярпення.**

**Найважнейшай мэтай кожнага хрысціяніна з'яўляецца святасць. Рэалізуючы асабістае паклікання, давайце разам імкнуцца да святасці, становячыся падобнымі да Бога!**

## ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ
## ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Апытальнік на падставе прац камісій І Сінода Гродзенскай дыяцэзіі

### Камісія па справах душпастырства сем'яў і сужэнстваў

1. Якія формы душпастырскай дзейнасці з сем'ямі існуюць у Вашай парафіі (пералічыце групы або таварыствы)?
2. Хто займаецца душпастырствам сем'яў (святар / манахіня / свецкая асоба)?
3. Якія напрамкі душпастырскай дзейнасці з сем'ямі Вы лічыце больш неабходнымі (маладыя сем'і, сем'і сталага ўзросту, несакраментальныя саюзы і інш.)?
4. Ці праходзіць у Вашай прафіі падрыхтоўка да сакраманту сужэнства (калі так, то як яна адбываецца)?
5. Ці лічыце неабходным задзейнічанне ў душпастырстве сем'яў кваліфікаваных асоб? Каго б маглі параіць?
6. Як, на Вашу думку, у сям'і і пры касцёле павінна адбывацца выхаванне дзяцей і моладзі да заснавання хрысціянскай сям'і?
7. Ці лічыце дастатковымі свае веды пра пакліканне да сям'і і сужэнства?
8. Як супрацьстаяць сучасным выклікам і захаваць традыцыйны інстытут сям'і ў сённяшнім грамадстве?
9. Якія формы душпастырскай дзейнасці з боку Касцёла маглі б паспрыяць папулярызацыі сямейных каштоўнасцей?
10. Якія формы душпастырскай дзейнасці з боку Касцёла маглі б паспрыяць абароне зачатага жыцця?
11. Як, на Вашу думку, неабходна фарміраваць у маладых павагу да старэйшага пакалення?
12. Якія формы передачы хрысціянскіх каштоўнасцей дзецям і моладзі існуюць у Вашай сям'і?
13. Ці лічыце дастатковым зацікаўленне Касцёла справамі сям'і ў сваёй парафіі і дэканаце?

### Камісія па справах экуменізму і міжрэлігійнага дыялогу

1. Што робіцца для адзінства хрысціян у Вашай парафіі або дэканаце?
2. Ці існуюць сталыя адносіны з хрысціянскімі супольнасцямі (калі так, то якія)?
3. Ці праводзяцца на грамадска-культурным узроўні сумесныя мерапрыемствы з прадстаўнікамі іншых хрысціянскіх канфесій (напрыклад, пастаральныя праекты, сацыяльныя акцыі і інш.)?
4. Што, на Вашую думку, стварае перашкоды для адзінства хрысціян у Вашай парафіі і дэканаце?
5. Якія перашкоды ў паразуменні адносна сакраментальнага душпастырства існуць паміж хрысціянскімі канфесіямі?
а) св. хрост: праблемы і спосабы іх вырашэння;
б) змешаныя сужэнствы;
в) споведзь і св. Камунія.
6. Ці магчымы, на Вашу думку, дыялог з няверуючымі (калі так, то якім чынам ён павінен адбывацца)?
7. Ці прысутнічае экуменічная тэматыка ў катэхізацыі і казаннях у Вашай парафіі?
8. Якія маеце заўвагі і прапановы ў справе экуменічнай дзейнасці?

***Прыняць удзел у сінадальнай працы можа кожны жадаючы. Запоўнены апытальнік неабходна даслаць у сакратарыят Сінода на паштовы адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 4, Курыя, – або на электронную скрыню: synodus.grodnensis@gmail.com.***



## 31 студзеня – літургічны ўспамін св. Яна Боско

# Любіць і быць побач

**Дзякуючы пастырскаму вопыту заснавальніка таварыства салезіян кс. Яна Боско (1815–1888) Касцёл па-новаму зірнуў на выхаванне маладога пакалення. Пра ўнікальную сістэму практычнага душпастырства моладзі распавядае біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB, старшыня Камісіі па справах каталіцкай адукацыі і катэхезы пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі.**






*Падчас святкавання Дня еднасці ў салезіянскай сям'і, 2019 г.*

***– Эксцэленцыя, якая сёння, на Вашу думку, моладзь?***

– Сучасная моладзь жыве ў складанай рэчаіснасці, дзе неабходна адрозніваць дабро ад зла. Усё можа быць размытым, таму маладыя людзі часам не ведаюць, дзе праўда, а дзе фальш. Змяняюцца прынцыпы, традыцыі, погляды… І не заўсёды да лепшага і карыснага. Нават пытанні веры сёння рэлятывізаваны, і ўсё часцей гаворыцца пра тое, што кожны “бог”, якога выдумляе сабе чалавек, роўны Адзінаму Богу. Індывідуальным выдумкам надаецца такое ж значэнне, як і рэлігіям паўсюдна прызнаным і выпрабаваным пакаленнямі.

Яшчэ адна праблема – сямейны крызіс, асабліва страта бацькоўскага аўтарытэту і маніпуляцыі з вызначэннем інстытута сужэнства. Нярэдка, каб не страціць прыхільнасць групы, малады чалавек ідзе за голасам равеснікаў альбо сродкаў масавай інфармацыі, якія не заўжды адлюстроўваюць праўдзівыя погляды. Самаўпэўнены, ён не задумваецца, што падтрымку і неверагодную сілу можа атрымаць з адносін з бліжнімі, сябрамі і роднымі.

У маладых сёння няма праблем з бацькамі, гэта ў бацькоў ёсць праблемы з імі. Яны ў парадку, ОК. Маладыя людзі хочуць быць здаровымі, дажыць да старасці, але патрабуюць легалізацыі ўжывання марыхуаны. Шкадуюць больш жабу, якую раздавіла машына, чым, часам, забітае ненароджанае дзіця, ахвяру аборту. Засяроджаныя на сваіх адчуваннях, не заўважаюць іншых, становяцца няверным і ў сяброўстве, не ўмеюць трымаць сакрэтаў. Часцяком паддаюцца хвілінным настроям і задавальненням. Хутка саступаюць цяжкасцям, не могуць даць сабе рады і таму лёгка змяняюць меркаванні, ідэі.

Свабода – перад абавязкам. Як толькі на гарызонце з'яўляюцца выклікі, гавораць, што з гэтага моманту ідуць іншай дарогай. Навошта пералазіць праз сцяну, калі яе можна абысці або пайсці туды, дзе сцяны няма?

Ці вераць у Бога? Бог ім, як правіла, не перашкаджае. Кажуць: хай Ён будзе! І далей жывуць па-свойму. Не цікавяцца мінулым, дасягненнямі бацькоў і продкаў. А тое, што прапануецца, прымаюць з абыякавасцю. Яны заўсёды маюць рацыю, для іх іншы не аўтарытэт.

***– Але ж не ўся моладзь такая?***

– Вядома, не кожнага маладога чалавека можна ахарактарызаваць падобным чынам. Аднак гэтыя тэндэнцыі выразна праяўляюцца сярод моладзі. І той, хто сёння займаецца выхаваннем, павінен іх улічваць. Галоўная задача – паказаць моладзі правільную і бяспечную дарогу ў жыцці.

Сучасны свет шмат прапануе для развіцця маладога чалавека: найноўшыя тэхналогіі, матэрыяльныя стымулы… Асобнае месца займаюць спецыяльныя правы: правы дзіцяці, правы вучня, правы студэнта. І ўсё гэта вядзе да бясстрэсавага навучання і антыпедагогікі: адукацыйныя ўстановы не прызначаны для выхавання, а толькі для атрымання ведаў. З такім падыходам маем шэраг праблем! Выхоўваем ліберальна настроеных індывідуалістаў. А за імі ідуць наступныя. “Я маю рацыю! Ну, дакажыце мне, што ўсё па-іншаму! Чаму не? Я так гэта адчуваю”. Выхоўваць – значыць прынізіць самога сябе, апусціцца да патрэб маладых людзей: так, як заахвочвае на старонках Евангелля Хрыстос. І гэта сапраўды цяжка.

Праца з моладдзю была і застаецца самым прыгожым досведам у маім жыцці. Кожны, хто прабывае з маладзёнамі і прысвячае ім сваё жыццё, можа быць настроены толькі аптымістычна. Таму я веру ў моладзь, давяраю ёй і спадзяюся на яе.

***– Ці ёсць у салезіян свой сакрэт, як “дастукацца” да моладзі?***

– Канешне, і яго нам пакінуў у спадчыну св. Ян Боско – айцец і настаўнік моладзі. “Няхай маладыя не толькі будуць любімымі, – гаварыў ён, – але няхай ведаюць, няхай адчуваюць, што іх любяць! Хто ведае, што любімы, той любіць сам; а той, каго моцна любяць, дасягне ўсяго”. Сапраўды прыгожыя і мудрыя словы чалавека, які зразумеў таямніцу выхавання.

Кс. Боско падказвае, што выхаванне – гэтую святую справу – трэба будаваць на розуме, рэлігіі і любові. Будаваць на розуме – значыць прыкласці ўсе намаганні, каб як мага лепш пазнаць моладзь, іх рэальнасць, здольнасці і абмежаванні, іх інтарэсы. Гэта таксама момант правіл і прынцыпаў, на якім ствараецца фундамент для адносін. Трэба іх уводзіць і тлумачыць, дапамагаць у іх рэалізацыі. Рэлігія дапамагае шчыра любіць, прабачаць, шукаць новыя дарогі да сэрца маладзёна, ахвяраваць на карысць яго дабра ўсе свае намаганні і здароўе. Рэлігія – гарант сапраўднасці любові да маладых.

Дасягненне высокіх ідэалаў, вядома, – задача нялёгкая. Менавіта таму неабходна агарнуць моладзь сваёй любоўю. Праз уздзеянне розуму яна становіцца патрабавальнай і выхаваўчай, праз рэлігію – міласэрнай і бескарыслівай. А што ўчыніць, каб малады чалавек ведаў, што яго любяць, і адказаў на любоў любоўю? Адказ кс. Боско – “трэба з ім быць!”.

***– Чаму прынцыпы працы з моладдзю кс. Боско не губляюць сваёй актуальнасці ў XXI стагоддзі? Сучаснікі надалей імі карыстаюцца і, можна сказаць, адкрываюць нанова.***

– Узгадаю выказванне кс. Боско, што выхаванне – гэта справа сэрца, і таму яно патрабуе ахвярнасці. Працэс выхавання не можа праводзіцца добра, калі няма сувязі з выхаванцамі. Вельмі важная пастаянная прысутнасць, удзел апекуна ва ўсіх справах выхаванцаў, пачынаючы ад навукі праз працу да гульняў і адпачынку. Але гэта не азначае надзор. Не! Заданне выхавацеля – арганізаваць час такім чынам, каб моладзь не нудзілася і не была пакінута сама сабе. Дзякуючы прабыванню сярод выхаванцаў можна заўважыць пэўную патрэбу і даць адпаведную параду ў канкрэтнай жыццёвай сітуацыі. Гэта пабуджае да наследавання выхавацеля, які ва ўсім стараецца даць добры прыклад.

Прэвентыўная сістэма выхавання кс. Боско не падуладна часу, застаецца заўсёды актуальнай, таму што засноўваецца на Святым Пісанні, а таксама на спецыфічным падыходзе святога як выхавацеля да выхаванца. Папераджальны характар выхавання, няспынны дыялог і асабісты падыход да кожнага – аснова сучаснага выхавання.

***– Чым асабіста Вам блізкая салезіянская духоўнасць? Пры якіх абставінах яе пазналі і чаму вырашылі прысвяціць сваё служэнне менавіта ёй?***

– Маё пакліканне нарадзілася раней, чым я ўступіў у Кангрэгацыю св. Францішка Сальскага. Наш смаргонскі касцёл адкрыўся ў 1989 годзе, недзе вясною. Але ніякай папярэдняй інфармацыі аб гэтым не было, і як хлапчук я не ведаў, што такая падзея наогул адбылася. Аб тым, што наша святыня дзейнічае, даведаўся ў канцы лета, калі вярнуўся з вёскі ад бабулі. Матуля кажа: “Адкрыўся касцёл, пайшлі на вячэрнюю св. Імшу!”. І мы пайшлі.

Цэлебрацыя вялася на польскай мове, якую я не ведаў. Адзінае, што тады зразумеў, – запрашэнне пробашча прыйсці да споведзі на пачатак новага навучальнага года. Памятаю, была серада – дзень, які ў нашай парафіі ахвяравалі Маці Божай Вастрабрамскай. Паспавядаўшыся, я падышоў пацалаваць стулу. Раптам пробашч пытае ў мяне: “Ці не хацеў бы ты быць міністрантам?”. І, не дачакаўшыся адказу, гаворыць: “Ідзі ў закрыстыю. Там адзін хлопец ёсць – разам будзеце несці абраз Маці Божай Вастрабрамскай”. Адчыняю дзверы і бачу свайго сябра, аднакласніка – сёння кс. Уладзіміра Кабака, таксама салезіяніна. Так мы з ім сталі першымі міністрантамі.

Памятаю свята Божага Нараджэння, калі спяваў на Пастэрцы псалом. Як убачыў вялікае мноства народу, што ўдзельнічаў у Эўхарыстыі, доўга не мог распачаць спеў. І менавіта ў той момант у мяне з'явілася пачуццё, ды такое моцнае: “Я заўсёды хачу тут стаяць!”. З той хвіліны – было мне тады 15 гадоў – пачаў сур'ёзна задумвацца, каб стаць святаром. Уважліва назіраў за працай свайго пробашча і захапляўся: колькі сіл ён аддаваў моладзі! Менавіта гледзячы на яго адчуў перакананне: гэта тая сям'я, у якой я павінен служыць.

Праз год паехаў у Польшчу, каб авалодаць мовай. Пасля быў прыняты ў навіцыят да ксяндзоў салезіян. Пакліканне яшчэ больш узмацнілася! Да таго ж, наш пробашч кожны дзень маліўся ў гэтай інтэнцыі. І нават калі мы сталі ўжо навіцыямі, пазней клерыкамі, таксама успамінаў нашы імёны, молячыся аб умацаванні на абраным шляху. Таму, акрамя Пана Бога, які адорвае чалавека пакліканнем, акрамя Найсвяцейшай Панны Марыі Успамогі Хрысціян, галоўнай заступніцы салезіянскай кангрэгацыі, св. Яна Боско, заснавальніка, майму жыццёваму выбару моцна спрыяў пробашч кс. Генрых Куляшэвіч. Гэта той чалавек, дзякуючы якому я адчуў і распазнаў сваё пакліканне ў сям'і кс. Боско.

***– Як члены салезіянскай супольнасці ўшаноўваюць памяць свайго заснавальніка кс. Яна Боско?***

– Да ўрачыстасці заснавальніка рыхтуемся праз навэнну, якая на працягу 9-ці дзён праводзіцца ў нашых супольнасцях, парафіях і араторыях. Адметнай часткай урачыстасці з'яўляецца Эўхарыстыя, на завяршэнне якой ушаноўваюцца рэліквіі кс. Боско, а затым у араторыі ладзіцца сямейнае свята, г. зв. Акадэмія для ўсіх. Гэта спевы, танцы, гульні, тэатральныя пастаноўкі і, канешне, салодкі пачастунак. Бо, як гаварыў кс. Боско, “рабіце ўсё, толькі не грашыце”.

**Няхай жа св. Ян Боско падтрымлівае і блаславіляе ўсіх нас у выхаваўча-душпастырскай працы! Няхай Ён выпрошвае патрэбныя Божыя ласкі і мудрасць, каб лепш зразумець і ўкараніць прэвентыўную сістэму выхавання ў нашай краіне. Няхай кожны малады чалавек у каталіцкім асяроддзі будзе адчуваць сябе як дома, як у сваёй сям'і, што накіроўваецца да Неба. Просім Маці Божую, каб дапамагла нам у гэтым.**

*Ангеліна Пакачайла*

## СЛОВА для жыцця

### *Папа Францішак*



*Божы люд добра адчувае розніцу паміж уладай нейкай асобы і ласкай намашчэння. “Ты ідзеш спавядацца ў грахах да гэтага чалавека?”. “Але я маю на ўвазе Бога. Кропка. Маю на ўвазе Езуса”. Гэта мудрасць нашага народу, які столькі разоў прымае многіх непаслядоўных пастыраў, падобных да кніжнікаў. Прымае таксама хрысціян, якія кожную нядзелю ходзяць на св. Імшу, а потым жывуць, як язычнікі. Людзі кажуць: “Гэта разбэшчанасць, адсутнасць адзінства”. Колькі зла ўчыняюць непаслядоўныя хрысціяне, якія не даюць сведчання, і непаслядоўныя пастыры, шызафрэнічныя, якія не даюць сведчання!*

*Малюся, каб усе ахрышчаныя мелі ўладу, якая не заключаецца ў раздаванні загадаў ці падпарадкоўванні сабе іншых, але праз паслядоўнасць.*

*Фрагмент гамілії падчас ранішняй св. Імшы ў Ватыкане, 14.01.2020*

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Св. Ян Павел II увайшоў у гісторыю як ваявода Хрыста, Папа перамен, мысліцель і філосаф, выдатны тэолаг і аратар, руплівы пастыр, чалавек глыбокай веры і малітвы, міру, культуры і мастацтва, паэт і акцёр, той, хто спрыяў дыялогу паміж рознымі веравызнаннямі і народамі, барацьбіт за мір і сацыяльную справядлівасць, нястомны пілігрым, натхняльнік перамен у свеце, аматар спорту і здаровага гумару… Сваім служэннем Касцёлу і свету ён пабудаваў нерукатворны помнік святасці, да якой пілігрымуе свет.*

*Св. Ян Павел II асаблівым чынам увайшоў у гісторыю адраджэння Касцёла ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Ён своечасова прачытаў знакі часу і імгненна адказаў на іх. Выкарыстаў сацыяльна-палітычныя змены канца 80-ых – пачатку 90-ых гадоў мінулага стагоддзя і на гэтых тэрыторыях адрадзіў структуры Каталіцкага Касцёла. […] Удзячныя папе Вайтылу за тое, што ў гады ваяўнічага атэізму ён удыхнуў у нас новую надзею нават насуперак надзеі (параўн. Рым 4, 18), адрадзіў касцёльную іерархію і падтрымліваў наш Касцёл, пакорна звяртаемся да яго: “Св. Яне Паўле II, перад абліччам небяспечных выклікаў сучаснасці натхняй нас прыкладам свайго жыцця, вучэння, сведчання і духоўнасці! Блаславі з акна нябеснага Айца, каб не баяліся адчыніць дзверы Хрысту і Яго збаўчай ласцы! Няхай жыццё паводле Яго вучэння стане для цябе дарам ад Каталіцкага Касцёла ў Беларусі!”.*

*Фрагмент Пастырскага паслання на 2020 год, прысвечаны св. Яну Паўлу II*




◆ *За апошні год у Еўропе (пераважна ў Заходняй) адбылося амаль 3 тысячы нападаў на хрысціянскія культавыя месцы: святыні, могілкі, помнікі, скульптуры і інш. Пра гэта паведаміла Папская фундацыя “Дапамога Касцёлу ў нястачы” (ACN), указваючы, што ў сярэднім 5 такіх падзей здараліся штодня. Большасць выпадкаў зарэгістравана ў Францыі і Германіі. Арганізацыя таксама паведамляе, што, улічваючы колькасць нападаў на хрысціян, 2019 год можна лічыць “годам пакутнікаў”.*

◆ *У мінулым годзе Касцёл ва Украіне ўзбагаціўся 16-цю пакліканнямі да святарства і кансэкраванага жыцця. Камісія па справах душпастырскіх спраў Рымска-каталіцкага Касцёла прадставіла наступную інфармацыю: 7 кандыдатаў паступілі ў дыяцэзіяльныя семінарыі, 2 – у семінарыі Redemptoris Mater, 4 кандыдаты распачалі фармацыю ў мужчынскіх кангрэгацыях (у айцоў капуцынаў, вікенційцаў, салецінаў і аблатаў), 3 кандыдаткі ўступілі ў жаночыя кангрэгацыі (да сясцёр юзэфітак, ганаратак, тэрэзіянак). Бягучы год аб’яўлены епіскапатам ва Украіне Годам паклікання.*

◆ *У сакавіку ў італьянскім Асізі адбудзецца форум “Эканоміка Францішка”. На ім збяруцца эканамісты і прадпрымальнікі ва ўзросце да 35-ці гадоў. Сярод іх даследчыкі, студэнты, навукоўцы, кіраўнікі прадпрыемстваў, вынаходнікі, грамадскія і міжнародныя дзеячы. Заяўкі на ўдзел у мерапрыемстве паступілі са 115-ці краін свету. Сваю прысутнасць ужо пацвердзілі таксама лаўрэаты Нобелеўскай прэміі па эканоміцы Мухамад Юнус і Амарція Сэн. Міжнародны форум “Эканоміка Францішка” пройдзе пад патранатам Дыкастэрыі па спрыянні інтэгральнаму развіццю чалавека.*

◆ *Заслужаны папа Бенедыкт XVI дыстанцыраваўся ад аўтарства кнігі аб святарстве і цэлібаце “Des profondeurs de nos coeurs” (“З глыбіні сэрца”), выдадзенай кард. Раберам Сара. Ён папрасіў прыбраць яго прозвішча і фота з вокладкі, а таксама подпіс пад уводзінамі і высновамі выдання. У кнізе выкарыстаны тэкст Папы на пенсіі, аднак яго не паінфармавалі пра рэальны план і макет запланаванага выдання. Кніга выйшла ў Францыі 15 студзеня, у ЗША і Германіі чакаецца ў лютым.*

◆ *Хрысціянскі фільм пад назвай “Прарыў” намінаваны на прэмію “Оскар” за найлепшую песню. Яе для кінастужкі напісала вядомая кампазітарка Даян Уорэн, якая супрацоўнічала з такімі зоркамі, як Элтан Джон, Селін Дыён, Тоні Брэктсан і інш. Фільм заснаваны на рэальных падзеях. У аснове сюжэта – цудоўная гісторыя пра хлопца, якога маці вярнула да жыцця праз 45 хвілін пасля таго, як урачы абвясцілі яго мёртвым. Ключавую ролю ў гэтым адыграла сіла малітвы.*

*vaticannews.va; credo.pro; ekai.pl*

# Св. Ян Павел II блізкі кожнаму з нас

**У вёсцы Макараўцы, размешчанай на паўночны захад ад Вялікай Бераставіцы, ёсць шмат дамоў, пазначаных на фасадзе крыжом, а галоўная вуліца носіць імя св. Яна Паўла II. Гэта красамоўны выраз пашаны і вялікай любові да Святога Айца. Мясцовыя вернікі падкрэсліваюць, што шмат чым абавязаны гэтаму вялікаму чалавеку, і цешацца, таму што сталі сведкамі часу, калі Папа паляк, любімы ўсім светам пры жыцці і пасля смерці, кіраваў Апостальскай Сталіцай.**



Падчас урачыстага асвячэння таблічак

Жадаючы гаварыць аб узнікненні вуліцы Яна Паўла II у Макараўцах, мусім звярнуцца да гісторыі гэтай мясцовасці. Калісьці тут была маленькая вёска пры двары Уснар. Паступова паўстаў касцёл, таму парафію называлі уснарскай. Пасля II Сусветнай вайны ў будынку двара арганізавалі школу, пазней – амбулаторыю. З часам, калі за ім перасталі сачыць, быў разрабаваны і знішчаны. А Макараўцы разбудоўваліся...

***“Аднак у мясцовасці не было ніякага падзелу на вуліцы, а жыхароў, як і дамоў, прыбывала,*** – расказвае пробашч тутэйшай парафіі Узвышэння Святога Крыжа кс. Павел Беланос. – ***Урэшце гэтая сітуацыя стала сур’ёзнай праблемай. Да прыкладу, хуткая дапамога, газавая служба, паштальён не разумелі, дзе каго шукаць, бо каб арыентавацца, трэба было тут жыць. У сувязі з тым паўстала патрэба ўпарадкавання, а для гэтага няма лепшага спосабу, чым падзяліць вёску на вуліцы і надаць ім назвы”.***




Святар адзначае, што ідэя нарадзілася акурат у год смерці Папы паляка. Жыхары Макараўцаў хутка сцямілі і звярнуліся да ўлад з просьбай надаць цэнтральнай вуліцы імя Яна Паўла II.


Папскае бласлаўленне, напісанае на аздобным пергаменце, старанна захоўваецца ў доме сям’і Сарасек

***“На гэтых землях большасць жыхароў складаюць палякі і католікі, што па-свойму ўплывае, паколькі лягчэй там, дзе большасць сваіх, тых, хто думае, можа, не ідэнтычна, бо так не атрымаецца, але падобна. Мае парафіяне адрозніваюцца выразнай самасвядомасцю, таму што ў большасці сваёй гэта людзі, якія ведаюць, адкуль іх род, шануюць свае карані, культуру, веру, захоўваюць традыцыі і перадаюць іх наступным пакаленням,*** – адзначае пробашч. – ***Памятаю паездкі вернікаў у Польшчу, у Рым на сустрэчу з папам Янам Паўлам II. Гэтыя пілігрымкі заўсёды абуджалі вялікую зацікаўленасць. І справа была не столькі ў тым, каб адарвацца ад штодзённасці і пабачыць свет, але ў тым, каб сустрэцца са Святым Айцом”.***

Кс. Павел падкрэслівае, што подпісы збіралі не толькі ў Макараўцах, але ва ўсёй парафіі, да якой належаць таксама Трахімы, Пяцельчыцы, Пачобуты, Лапенеўцы, Вішнеўка, Курчоўцы, Ігнатовічы, Рэпавічы, Кудрычы, Лішкі, Астапкаўшчына. Гэтым займалася Парафіяльная рада. 20 красавіка 2005 года раённым уладам у Вялікай Бераставіцы быў скіраваны адпаведны ліст. Адказу чакалі цэлы год, але, на жаль, ён аказаўся адмоўным. Пазіцыя была абгрунтавана тым, што “асоба Папы не такая заслужаная для мясцовага насельніцтва”, што “хапае беларускіх герояў, якімі можна ганарыцца і імёнамі якіх можна называць вуліцы”.

Тады жыхары Макараўцаў напісалі чарговы ліст, у якім сцвердзілі, што не згодны з вывадамі камісіі, і прывялі свае аргументы: ***“Папа не мог наведаць Беларусь па розных прычынах, на якія не меў уплыву. Нягледзячы на гэта, многія, у тым ліку і жыхары парафіі Макараўцы, змаглі з ім сустрэцца, між іншым, у Рыме, падчас пілігрымак у Польшчу, Літву, Украіну. Ян Павел II заўсёды заўважаў групы вернікаў з Беларусі, прымаў на аўдыенцыі, заўсёды знаходзіў для іх цёплае слова. Наданне цэнтральнай вуліцы імя Яна Паўла II служыла б не толькі як даніна памяці аб гэтым вялікім чалавеку, але і як напамін аб вартасцях, якімі ён жыў і якія абвяшчаў. Грамадства, жывучы паводле гэтых вартасцей, было б больш адказным, багатым духоўна, і таму мацнейшым”.*** Нарэшце прыйшоў станоўчы адказ, і працэс распачаўся.

Адбылося некалькі сходаў жыхароў з уладамі, дзе мясцовых пыталіся, ці ўсе згодны з прапановай назвы вуліцы. Усе, у тым ліку і праваслаўныя, прагаласавалі “за”. 31 сакавіка 2007 года біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч асвяціў таблічкі з назвай вуліцы Яна Паўла II. Жыхары з вялікай радасцю адразу павесілі іх на сваіх дамах.

***“Галоўнай мэтай гэтай ініцыятывы з’яўляецца памяць пра асобу Папы паляка і яго навучанне,*** – падагульняе кс. Павел Беланос. – ***Мы шчаслівыя, што маем такога заступніка, але гэта таксама абавязвае нас з асаблівым клопатам ставіцца да веры, малітвы і сваіх паводзін. Людзі, якія жывуць на вуліцы імя Яна Паўла II, вельмі ганарацца гэтым”.***

Святар таксама падкрэслівае, што ў касцёле ў Макараўцах знаходзяцца рэліквіі крыві св. Яна Паўла II, а ў бакавым алтары размешчаны абраз Святога Айца. У святыні рэгулярна адбываюцца набажэнствы ў гонар вялікага Папы. Звычайна яны праводзяцца з нагоды важных дат у жыцці святога: дня нараджэння, выбару на Пасад св. Пятра, адыходу ў вечнасць, гадавіны кананізацыі.

***

У дамах многіх вернікаў парафіі Узвышэння Святога Крыжа ёсць пэўныя памяткі аб папе Яне Паўле II: альбомы, абразкі, паштоўкі, кнігі. З трапятаннем захоўваюцца здымкі, зробленыя ў Ватыкане падчас сустрэчы са Святым Айцом.

Ірына Даўгяла з пяшчотай успамінае паездку ў Рым у 2000 годзе. Па яе словах, тыя дні былі напоўнены ўражаннямі, але самым яскравым момантам стала сустрэча з Папам. Ніхто яшчэ не ўсведамляў, што дакранаецца да святога. ***“Аўдыенцыя ў Папы – жаданне многіх вернікаў, якія прыбываюць у Ватыкан. А калі яна адбудзецца, то таксама і вялікі гонар. Прайшло ўжо столькі гадоў, а я ўсё яшчэ выразна памятаю – нібы бачу перад вачыма – твар Папы. На аўдыенцыі кожны стараўся падысці да Святога Айца як мага бліжэй. Ён усміхаўся, казаў, што ахвотна наведаў бы Беларусь, калі б была такая магчымасць,*** – расказвае спадарыня Ірына. – ***Падчас сустрэчы адзін з ксяндзоў даў нам на памяць семечкі 3-ох гатункаў пальмы. Я прывезла іх дадому, пасадзіла – і ўзышло 20 пальмачак. Пакінула сабе некалькі, а астатнія аддала іншым – яны таксама цяпер маюць у сябе дома напамін пра Папу”.***


Памятны здымак з аўдыенцыі ў Святога Айца

Сваімі ўспамінамі дзеліцца таксама Марыя Сарасек. Жанчына расказала, што яе сыны Веслаў і Юрый мелі шчасце сустрэцца з Папам. Прывезлі з Ватыкана памяткі, фатаграфіі, якія дагэтуль захоўваюць дома. Спадарыня Марыя ўзгадвае таксама, што ў далёкім 1987 годзе, едучы ў Польшчу да сваякоў, пазнаёмілася ў цягніку з манахам, якога звалі Станіслаў Бігай. Пасля гэтай сустрэчы святар напісаў не адзін ліст сям’і жанчыны, прыязджаў у госці. Ён сам пісаў вершы, сярод якіх былі і творы аб Яне Паўле II. Жанчына захоўвае іх да гэтага часу і любіць перачытваць, асабліва доўгімі зімовымі вечарамі.

***“А. Станіслаў прывёз нам бласлаўленне ад Святога Айца,*** – з гонарам распавядае спадарыня Марыя, заўважаючы, што ў яе доме шмат кніг пра Папу, яго пілігрымкі. Некаторыя з іх жанчына плануе падарыць у гэтым годзе сваім унукам, якія будуць прыступаць да I св. Камуніі. – ***Ушаноўваем Святога Айца, як умеем. Ён блізкі кожнаму з нас. У час перэгрынацыі абраза св. Яна Паўла II мы маліліся спецыяльнай літаніяй і чыталі верш пра яго. Кожны з вялікай радасцю прымаў абраз святога ў сябе дома”.***

У Макараўцах выразна адчуваецца, што св. Ян Павел II глыбока ўкаранёны ў сэрцах і думках мясцовых вернікаў. Цяпер, калі любімы Папа абвешчаны святым, моляцца ўжо не за яго, а да яго, просячы аб заступніцтве ў Небе.

*Кінга Красіцкая*

# Жыццё ўпоўні



• працяг са с. 1

**З нагоды Дня кансэкраванага жыцця маем магчымасць у чарговы раз крыху наблізіцца да спасціжэння паклікання да манаства. Пра насычанасць жыцця ў кляштары распавядае с. Філатэя Ціхановіч CSFN.**

***– С. Філатэя, што натхніла Вас следаваць за Хрыстом у якасці манахіні?***

– Упершыню думкі аб манастве з'явіліся ў мяне ў 19 гадоў. У той час я наведвала неакатэхуменальную супольнасць пры гродзенскім пабернардынскім касцёле. Фармацыя шмат часу ўдзяляла малітоўнаму чытанню Божага слова. Я вучылася слухаць Найвышэйшага. Зразумела, што Ён хоча гаварыць аб важных рэчах у маім жыцці, выкарыстоўваючы тэксты Бібліі. Уваходзячы ў дыялог з Езусам праз Святое Пісанне, я заўважыла, як мяне зачароўвае Яго Асоба. Мяркую, як аднаго чалавека захапляе другі, калі яны пазнаюць адзін аднаго, так і мяне захапіў Госпад, паклікаўшы пайсці за Ім.

***– І Вы далучыліся да Кангрэгацыі Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта. Чаму абралі менавіта супольнасць сясцёр назарэтанак?***

– На першы погляд можа скласціся ўражанне, што мой выбар быў выпадковым. Я жадала злучыць з Хрыстом сваё жыццё праз манаства, а сёстры назарэтанкі былі тымі, каго я блізка ведала. Уступаючы ў супольнасць, нават не думала пра іх харызму. Аднак наш Бог – гэта Бог лёсу, а не выпадку. Толькі з часам я даведалася, што ўзорам для неакатэхуменальнай супольнасці, дзе адбывалася маё хрысціянскае станаўленне, з'яўляецца Святая Сям'я з Назарэта. Атрымалася, што мая першая фармацыя праходзіла ў духу Назарэта, і калі я пачынала шукаць сябе ў манастве, Пан Езус скіраваў да назарэтанак. Відаць, харызма Святой Сям'і – гэта той шлях, які Бог падрыхтаваў для мяне.

Увогуле, мая гісторыя з гэтымі манахінямі пачалася са шлюбнага абутку! Сёстры, якія служылі пры пабернардынскім касцёле, чамусьці вырашылі, што мы з адным хлопцам з неакатэхуменальнай супольнасці плануем ажаніцца. Аднойчы да мяне падышлі с. Стэла і с. Агнешка і, працягнуўшы каробку, прамовілі: "Нам тут дары з Германіі даставілі. Трымай. Будзе табе на вяселле". Я адкрыла каробку і ўбачыла прыгожыя белыя туфлі! Была ўдзячна за клопат, але разам з тым крыху здзівілася. "Я не збіраюся замуж! І ўвогуле малюся аб распазнанні паклікання да манаства". С. Стэла не разгубілася: "Можа, тады да нас?".

***– Раскажыце, калі ласка, пра першы час у кляштары. Што ўразіла?***

– Першае, што прыходзіць на думку, – розніца ў перажыванні свят. Я прызвычаілася, што сустрэча Новага года – адзін з самых яскравых момантаў у календары. І вось, першы пярэдадзень чарговага года ў кляштары. Мы з сёстрамі сабраліся на супольнай малітве, пасля – на ўрачыстай св. Імшы, а затым… манахіні пайшлі спаць. На мой запытальны позірк адна з сясцёр са зразуменнем паглядзела на мяне і, усміхнуўшыся, сказала: "А мы не святкуем". Я засталася стаяць каля акна, назіраючы за вуліцай, якая адзіную ноч у год поўніцца бадзёрымі мінакамі.

Памятаю таксама свой першы дзень нараджэння сярод сясцёр. Манахіні падрыхтавалі для мяне адмысловае прадстаўленне і вялікую колькасць слодычаў. Для дзяўчыны, якая расла ў савецкія часы пустых паліц, гэта было сапраўдным сюрпрызам. А яшчэ сёстры заўважылі, што мне падабаюцца маленькія абразкі, якіх не было шмат у тыя часы. І пачалі збіраць іх спецыяльна для мяне. Гэтыя дробязі дапамаглі адчуць, што я знайшла другую сям'ю.

Разам з тым адзначу, што абранне новага шляху – пакіданне ў другім жыцці родных, сяброў, маёмасці – не праходзіць бязбольна. Аднак трэба памятаць, што цяжкасці – гэта толькі нязвыклая сітуацыя, праз пераадоленне якой мы ўзрастаем.

***– А як выглядае манаская штодзённасць цяпер?***

– У вялікіх супольнасцях распарадак дня заўсёды больш стабільны. У невялікіх, такіх, як мая, – гібкі. Пры планаванні дня мы з сёстрамі ўлічваем час на індывідуальную і супольную малітву, стараемся разам есці пасілкі. Вольны час кожны арганізуе сабе самастойна.

Асабіста я люблю паглыбляцца ў Божае слова, таму працягваю ўдзельнічаць у сустрэчах катэхуменальнай супольнасці. Мне падабаецца і актыўны адпачынак. Калі спрыяе надвор'е, выбіраюся на шпацыр або езджу на веласіпедзе. Зімой аддаю перавагу катанню на каньках. Намагаюся знаходзіць час для родных і сяброў, на добры фільм ці кніжку.

Што тычыцца абавязкаў, на дадзены момант я працую пераважна з моладдзю і дзецьмі. Праводжу катэхезу і маю пад апекай дзяўчат бялянак, якія належаць да літургічнай службы алтара.

***– Якім чынам ва ўмовах кляштарнага жыцця рэалізуецца жаноцкасць?***

– На маю думку, кожная жанчына паклікана да будовы гарманічных адносін з тымі, хто трапляе ў яе атачэнне. У жаноцкасці ад Бога закладзена мяккасць, якая раскрывае іншага чалавека: прасвятляе думкі, прыглушае пачуццё адзіноты. У сваім служэнні я сутыкаюся са шматлікімі людзьмі – дарослымі і дзецьмі – і маю шмат магчымасцей выражэння сваёй жаноцкасці праз будову цёплых і прыгожых сувязей.

Таксама я ўдзячная Богу, што нанова змагла раскрыць сваю жаноцкасць праз арганізацыю пілігрымкі Гродна – Навагрудак. Госпад так расшырыў маё сэрца, што яно было сканцэнтравана не толькі на сабе і блізкіх мне людзях, але і атуліла клопатам усіх удзельнікаў паломніцтва. Прыемна было пасля чуць ад пілігрымаў, што дзякуючы сёстрам назарэтанкам, увесь шлях ім спадарожнічаў сапраўдны сямейны дух.

А калі паглядзець на жаноцкасць са звычайнага чалавечага пункту гледжання, то адзначу, што назарэтанскі хабіт вельмі элегантны (*усміхаецца – **заўв. аўт.***).

***– Дарэчы, арганізацыя паломніцтва да сясцёр мучаніц нядаўна стала адным з Вашых галоўных абавязкаў. Што новага гэта прыўнесла ў жыццё?***

– Перадусім, гэта новы досвед перажывання Касцёла. Пілігрымка з'яўляецца цудоўным вобразам хрысціянскай супольнасці – вучняў, якія ідуць за сваім Настаўнікам і слухаюць Яго. Лепш за ўсіх дарогу разумее той, хто па ёй крочыць. А хто даходзіць да канца, лепш за ўсіх усведамляе мэту. Мяркую, што на заканчэнне кожнай пілігрымкі, пасля шматлікіх духоўных разважанняў вернікі нанова адкрываюць, што галоўнае зямное дасягненне – заслужыць Нябёсы, сапраўдную Айчыну.

Таксама паломніцтва нагадвае нам пра першапачатковае разуменне супольнасці вернікаў – у першых стагоддзях хрысціянства сход вызнаўцаў Езуса называлі дарогай. Пілігрымка вяртае да вытокаў, ажыўляючы веру.

***– А што наконт яскравых падзей з Вашага жыцця ў манастве?***

– Мне пашчасціла трапіць на беатыфікацыю 11-ці сясцёр мучаніц з Навагрудка, якая адбывалася ў Рыме. На ўрачыстасці такога вялікага значэння траплялі выключна манахіні, якія ўжо склалі вечныя абяцанні. Я на той момант была на 3-ім годзе юніярату. Моцна хацела прыняць удзел у падзеі – прасіла Езуса аб гэтым. І калі даведалася, што зрабілі выключэнне, і сёстры юніёркі маюць дазвол на пілігрымку, успрыняла гэта як Божы цуд! Да таго ж, на 2-гі дзень пасля беатыфікацыі мне выпаў гонар прачытаць малітву верных на беларускай мове ў базіліцы св. Пятра.

Таксама вялікае ўражанне на мяне аказаў выезд у Англію ў межах вывучэння мовы. У той час я служыла сакратаркай правінцыяльнай сястры, і, улічваючы, што наш ордэн міжнародны, гэтыя курсы былі мне вельмі неабходныя. Англія захапіла не толькі веліччу архітэктуры, але і тым, якое вялікае значэнне надаецца чалавеку. Калі я прыйшла на заняткі, не ведала ані слова па-англійску, у той час як астатнія маглі больш-менш камунікаваць. Аднак за кожны самы дробны поспех мяне абсыпалі кампліментамі: "Wonderful!", "Beautiful!". Гэта дадало мне жадання авалодаць мовай як мага хутчэй. У выніку канчатковы экзамен я здала лепш за ўсіх! У дадатку да ўсяго, выезд даў мне магчымасць пазнаць сясцёр з розных куткоў зямлі, якія жывуць у Лондане.

***– Як асоба, якая знайшла свой шлях і ўжо на працягу 25-ці гадоў радасна трывае на ім, падкажыце, як распазнаваць жыццёвае пакліканне? І як у гэтым выпадку садзейнічае Бог?***

– "Раней, чым сфармаваў цябе ва ўлонні, Я пазнаў цябе" (Ер 1, 5). Давяраючы гэтым словам з Пісання, можам зрабіць наступны вывад: Бог глыбока ўпісвае пакліканне ў сэрца чалавека, калі толькі думае пра наша стварэнне. Каб расчытаць гэтае пакліканне, трэба паклапаціцца аб некалькіх рэчах. Па-першае, прыслухоўвацца да сваіх глыбокіх жаданняў, паколькі напісана: "Бо гэта Бог ёсць тым, хто чыніць у вас жаданне і дзеянне паводле свайго ўпадабання" (Флп 2, 13). Ён дае нам прагненні, якія вядуць да дабра. Па-другое, звярнуць увагу на свае дары – уменні. А таксама знаходзіць час, каб у цішыні сэрца спытаць у Бога: "Да чаго Ты клічаш мяне? Што я павінен рабіць у сваім жыцці?".

Тым, хто адчуў пакліканне да манаства, хачу параіць не баяцца зрабіць першы крок. Калі апынаешся ў кляштары, цябе не кідаюць на волю лёсу, але дапамагаюць далей распазнаваць свой шлях адмыслова падрыхтаваныя людзі: фарматары, пастаянныя спаведнікі. Заўважыла, што некаторыя ставяцца да манаскага паклікання з лёгкім недаверам: нібы Госпад штосьці адбірае пры гэтым. Колькі атрымліваеш узамен! І я спадзяюся, што маё святкаванне юбілею сярод шматлікіх гасцей (*у верасні мінулага года с. Філатэя адзначыла 25-годдзе манаскага жыцця ў роднай парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне, сабраўшы святароў, сясцёр назарэтанак, родных, сяброў і парафіян – **заўв. аўт.***) хаця б крыху засведчыла іншым аб Божай шчодрасці.

Таксама здараецца, што ў чалавека не атрымліваецца адразу распазнаць пакліканне. І гэта не павінна бянтэжыць. У кожнага свой шлях: хтосьці распазнае яго адразу, для некага ён будзе больш доўгі. Так, у нас ніколі няма часу, але ў Бога ён ёсць заўсёды.

Разам з тым адзначу, што ў Пана заўсёды ёсць план "Б". Калі чалавек адчувае, што не знайшоў сваю дарогу, і рэалізоўвае сябе па-іншаму, Нябесны Айцец будзе чыніць усё, каб зрабіць яго шчаслівым у гэтым выбары. Галоўнае – якое б рашэнне не было прынята, трэба памятаць: ты будуеш не на сабе, але на Богу.

*Ангеліна Марцішэўская*



*С. Філатэя з парафіяльнай моладдзю. Супольны выезд на каток*

## З КАТАЛІЦКІХ СМІ

CATHOLIC.BY

### *Дом для дзяцей*

***У Навальні (Дзятлаўскі раён) адбылося блаславенне дома дзённага прабывання для дзяцей.***

*Мерапрыемства, прымеркаванае да ўрачыстай падзеі, распачалося канцэртам у мясцовым клубе. Пасля прысутных чакаў салодкі стол і непасрэдна сам абрад блаславення.*

*Дом дзённага прабывання для дзяцей змяшчаецца ў звычайнай сялянскай хаце. Капітальны рамонт там быў зроблены намаганнямі ксяндзоў салезіян. Дзякуючы паслузе святароў дзеці і моладзь маюць магчымасць падсілкавацца пасля школьных заняткаў, зрабіць хатняе заданне і проста добра правесці час.*

niedziela
TYGODNIK KATOLICKI

### *Ахоўнікі са зброяй у касцёлах?*

***Калі раней духавенства ў ЗША дыскутавала, ці ахова абавязковая, цяпер гаворка ідзе ўжо толькі пра тое, як яе арганізаваць.***

*Большасць касцёлаў не мае ніякіх мер бяспекі. Некаторыя духоўныя асобы наймаюць прафесійную ахову. Свае паслугі таксама прапануюць валанцёры, сярод якіх дастаткова шмат былых федэральных агентаў.*

*Апошняя атака ўзброенага мужчыны ў тэхаскім касцёле і напад з мачэтэ на дом рабіна ў штаце Нью-Ёрк паказваюць, што праблема актуальная. Сучасная рэальнасць даказвае эфектыўнасць выбранага душпастырамі шляху.*

wiara.pl

### *Вядомы даўгабуд свету*

***Названы тэрмін заканчэння будаўніцтва базілікі Святой Сям'і (Sagrada Família) у іспанскай Барселоне. Яно павінна завяршыцца ў 2026 годзе, у якім прыпадае сотая гадавіна смерці архітэктара святыні Антоніа Гаўдзі.***

*Асвечаная ў 2010 годзе папам Бенедыктам XVI базіліка будуецца з 1882 года. Штогод слынны касцёл наведвае каля 4 мільёнаў чалавек, і гэтая колькасць увесь час узрастае.*

*З 2003 года акты беатыфікацыйнага працэсу Антоніа Гаўдзі знаходзяцца ў Кангрэгацыі па справах кананізацыі. Для вынясення праекціроўшчыка вядомай святыні да хвалы алтара патрэбны будзе яшчэ цуд праз яго заступніцтва.*




### Ці існуе розніца паміж чорнай і белай магіяй?

*Чалавек, які свядома займаецца магіяй альбо карыстаецца паслугамі магаў, варажбітак і да т. п., здзяйсняе смяротны грэх, а ён нішчыць Божую любоў у чалавечым сэрцы і адштурхоўвае ад Айца праз цяжкае парушэнне Яго закону. У першай Божай запаведзі сцвярджаецца: "Не май іншых багоў, апроч Мяне". Таму той, хто звяртаецца да чараўнікоў, варажбітаў, акультыстаў, "святых" людзей, бабак і г. д., каб пазнаць сваю будучыню, аздаравіцца альбо выканаць нейкія магічныя рытуалы, здзяйсняе цяжкі грэх супраць веры. Ён абавязаны спавядацца з гэтага, каб вярнуцца ў стан асвячальнай Божай ласкі (нават калі з моманту звароту да варажбіта альбо мага прайшло шмат часу).*

*Займацца магіяй – азначае рабіць зло з дапамогай д'ябла. І нават белая магія, якая падаецца як добрая ў тым сэнсе, што спрые добрым справам (напрыклад, пошуку працы ці аздараўленню), на самой справе ідэнтычная чорнай. У Катэхізісе Каталіцкага Касцёла гаворыцца: "Усякае выкарыстанне магіі або варажбы, з дапамогай якіх спрабуюць прыручыць акультныя сілы, каб карыстацца імі і валодаць звышнатуральнай уладай над бліжнім, нават і для таго, каб дадаць яму здароўя, сур'ёзна супярэчыць рэлігійным цнотам" (ККК, 2117). Такім чынам, розніцы паміж белай альбо чорнай магіяй не існуе.*

*Кс. Аляксей Ляшко*
**Паводле catholicnews.by**

# "Блажэйкі" – за лекамі ад фізічнага і духоўнага болю



Св. Блажэй нарадзіўся ў III ст. на тэрыторыі сучаснай Турцыі. З юнацтва адрозніваўся набожным жыццём. Быў прызначаны біскупам Себасты. Гэта мела месца ў часы панавання рымскага імператара Ліцынія, які прагнуў знішчыць хрысціянства. Калі ўзмацніліся праследаванні вызнаўцаў Хрыста, біскуп быў вымушаны хавацца ў пячоры, каб мець магчымасць далей кіраваць сваёй дыяцэзіяй. Аднак яго знайшлі і арыштавалі, кінуўшы ў вязніцу. Там мужна абвяшчаў Евангелле вязням, якія знаходзіліся разам з ім. Адважнага біскупа не змаглі пераканаць адрачыся ад хрысціянства, і ён быў закатаваны.

Культ св. Блажэя распаўсюджаны як у заходняй, так і ва ўсходняй Царкве. Успамін святога ў Каталіцкім Касцёле прыпадае на 3 лютага.

У Касцёле бытуе традыцыя ў дзень літургічнага ўспаміну св. Блажэя асвячаць свечкі – г. зв. "блажэйкі". Пасля ўрачыстага абраду святар блаславіла сабраных вернікаў: падносіць да шыі скрыжаваныя свечкі і прамаўляе кароткую малітву. Ён просіць Госпада праз заступніцтва св. Блажэя берагчы людзей ад хвароб горла і ўсялякага зла. Чым адметны гэты святы?

Пры жыцці св. Блажэй быў лекарам. Аднак, адказаўшы на Божы заклік, ступіў на шлях святарства, стаў біскупам. Прысвячаючы Госпаду жыццё, будучы святы не страціў сябе ў пакліканні ўрача, але нанова адкрыў яго. Раней дапамагаў хворым добрай радай і ўмелымі рукамі, пасля яшчэ і атрымаў дар ацаляць людзей.

Адна з легенд пра святога распавядае, як ён выратаваў ад удушэння адзінага сына пэўнай жанчыны. Малы падавіўся косткаю, якая засела ў горле і выклікала моцны ацёк. Св. Блажэй хацеў аблегчыць цярпенні дзіцяці, аднак не меў пры сабе спецыяльных медыцынскіх інструментаў. Тады са спачуваннем і пачуццём моцнага даверу Госпаду біскуп схіліўся над хлопчыкам і, дакрануўшыся да яго шыі, зрабіў знак крыжа. Раптам дыханне дзіцяці выраўнялася, ацёк пачаў паступова спадаць, пасля чаго ўвогуле сышоў. Адбыўся цуд!

Гэтая гісторыя не гаворыць аб тым, што св. Блажэй – чараўнік, які здольны пазбавіць нас ад болю ў горле, калі толькі прыкладзём да сябе асвечаныя свечкі. Святы, які з клопатам ставіўся да кожнага чалавека, заклікае людзей клапаціцца пра ўласнае здароўе. З яго дапамогай мы пакліканы пазбавіць сваё нутро не толькі ад фізічнай хваробы, але і ад менш намацальнага зла. Так, можам мець ангіну, пухліну ў горле або можам чымсьці падавіцца, аднак куды страшней, калі праз горла вылятаюць словы нянавісці, якімі крыўдзім бліжняга. Або калі да горла падыходзіць ком і адчуваем паралізуючы страх, што перашкаджае стаць у чаргу да канфесіянала. Св. Блажэй нагадвае пра неабходнасць нястомна змагацца з духоўнай немаччу. Калі гэта зразумеем, то і ўдзел у цырымоніі асвячэння свечак і далейшага блаславлення стане для нас больш асэнсаваным. А разам з тым большай глыбіні набярэ і наша вера.

Сёлета, калі ва ўспамін св. Блажэя святар будзе здзяйсняць вядомы абрад, давайце пастараемся нанова адкрыць яго сутнасць. Папросім св. Блажэя, каб добра засвойвалася ежа, што праходзіць праз нашае горла, і каб давалі добры плён словы, якія выходзяць з яго. Папросім святога ў клопаце пра саміх сябе быць падобнымі да яго: дбаць пра ўласнае цела, як лекар, і пра душу – як біскуп.

*Ангеліна Марцішэўская*

## Малітва праз заступніцтва св. Блажэя

**Усемагутны вечны Божа! З жывой верай і пашанай я ўсхваляю Тваю Боскую веліч і кланяюся Табе, а таксама прашу з дзіцячым даверам Тваіх ласкаў і міласэрнасці. Асвяці змрок майго розуму промнем Твайго святла і распалі маё сэрца агнём Тваёй любові, каб мог сузіраць вялікія цноты і заслугі св. Блажэя і так, як ён, пераймаць жыццё Твайго Сына Езуса Хрыста. Прашу таксама аб ласцы ... *(назваць інтэнцыю)* праз заслугі і заступніцтва гэтага магутнага духоўнага памочніка, св. Блажэя. Будзь воля Твая як у небе, так і на зямлі. Выслухай ласкава гэтыя словы, калі яны пойдуць на большую хвалу Тваю і на збаўленне душы. Амэн.**




# Як дапамагчы чалавеку ў духоўным крызісе?



*Дк. Яўген Амасёнак*

Сёння цяжка ўявіць сабе кагосьці, хто б ніколі не перажываў такія моманты, калі здаецца, нібы ўсё, што да гэтай пары было фундаментальным і найбольш каштоўным у жыцці, рушыцца на вачах. Духоўны крызіс, а менавіта аб ім пойдзе гаворка, звычайна носіць негатыўны характар, таму што кожны з нас імкнецца да пэўнай стабільнасці, упэўненасці ў заўтрашнім дні, пачуцці душэўнага супакою. Мы вельмі часта молімся ў гэтых інтэнцыях і называем такі парадак Божым блаславленнем. Таму можа здавацца, што крызіс веры – нешта супрацьлеглае нармальнаму духоўнаму стану.

Некаторыя схільны ўспрымаць крызіс як катастрофу ледзь не сусветнага маштабу. На самой справе, гэта неабходны і надзвычай каштоўны этап у духоўным станаўленні кожнага чалавека. У першую чаргу, гэта магчымасць. Самае каштоўнае, што маем, развіваецца пры дапамозе крызісаў: наша асабовасць, адносіны з людзьмі навокал, светапогляд. Іншымі словамі, маецца на ўвазе магчымасць за кароткі час зрабіць радыкальныя змены ў поглядах на штодзённасць, разбурыць прывычныя жыццёвыя ўстаноўкі, якія абмяжоўваюць духоўнае развіццё, а разам з тым глыбей пазнаць сябе і свае адносіны з Богам.

У крызісе веры чалавек перастае разумець сэнс свайго існавання. Увесь папярэдні духоўны вопыт пачынае ім абясцэньвацца. Аднак гэтая праява расчаравання ў значнай ступені дапамагае ачысціцца ад усяго таго, што на самой справе з'явілася другасным і малазначным у адносінах з Богам. У той жа час кожны крызіс можа несці і небяспеку, асабліва ў тым выпадку, калі замест таго, каб выйсці з яго і зрабіць чарговы крок наперад, чалавек "завісае" ў сваіх перажываннях альбо правальваецца ў бездань расчаравання. Гэтаму спрыяюць розныя прычыны: пераматленне, няпростыя жыццёвыя абставіны, слабое здароўе, нават дрэннае надвор'е і звыклая стомленасць. Галоўнае ў крызісе – не адчайвацца.

Духоўнае жыццё нашмат складанейшае, чым занятак па падручніку. Засваенне тэорыі не гарантуе чаканы рэзультат. Простыя, зразумелыя на першы погляд ісціны чалавек часам можа спасцігаць на працягу ўсяго жыцця, таму што ведаць і прымяняць на практыцы – дзве розныя рэчы.

Чаму ж так цяжка, а можа, нават немагчыма знайсці чалавека, які ніколі не сутыкаўся з духоўным крызісам? Адна з найбольш распаўсюджаных прычын – крушэнне ілюзій, якія датычаць памылковага самаўспрымання. Мы звычайна бачым у сабе рознага характару магчымасці, здольнасці, дараванні, што даюць больш-менш адэкватнае адчуванне ўласнай годнасці. Аднак так ці інакш пэўныя ілюзіі аб сабе накопліваюцца і ў момант крызісу церпяць крах. І тады кожны з нас вымушаны, з аднаго боку, збіраць усё нанова, а з іншага – нагадваць сабе, кім з'яўляецца на самой справе.

Наступная прычына – крушэнне ілюзій аб Богу. Часта мы носім у сабе скажоны вобраз Стварыцеля і не ўсведамляем, што пакланяемся, па ўсёй верагоднасці, не сапраўднаму Богу, а нейкаму выдуманаму ідалу. Змена такога мыслення – балючы досвед, але ў духоўным сэнсе надзвычай карысны.

І, нарэшце, крушэнне ілюзій аб Касцёле. Многія чакаюць, быццам трапяць у нейкае "беззаганнае месца", можна сказаць, зямны рай, дзе ўсе адзін аднаго безумоўна любяць і шануюць. На практыцы ж гэтыя ўяўленні могуць разбіцца аб грубую рэчаіснасць.

Трэба разумець, што духоўны крызіс не ўзнікае проста так, у адзін момант. Яго звычайна папярэджвае доўгі скрыты працэс, падчас якога нарастаюць унутраныя канфлікты. Спярша мы іх не прызнаём, стараемся не заўважаць. Але аднойчы гэты канфлікт становіцца невыносным, і ўсё пачынае рушыцца. Ідэальная карцінка свету дае трэшчыну, і зямля выходзіць з-пад ног. Тое, у што мы так моцна верылі, выглядае тады як падман і ілюзія.

Чалавек, які ўжо не аднойчы прайшоў праз такое жыццёвае выпрабаванне, добра разумее, што гэты перыяд разгубленасці, цярпення і расчаравання не цягнецца вечна, а выпрацоўваецца ў працэсе яго перажывання. Такі стан можна параўнаць з навальніцай: спачатку неба нагнятаецца, затым бліскае маланка, раздаецца гром, пачынаецца лівень, а пасля паветра становіцца чыстым і свежым...

Як дапамагчы чалавеку, які перажывае духоўны крызіс? Перш за ўсё, яму самому трэба ўсвядоміць, што мы не адныя на гэтым свеце. Нават тады, калі востра адчуваем самотнасць, хутчэй за ўсё побач ёсць людзі, якія могуць падтрымаць і дапамагчы. Важна не стаць для чалавека ў крызісе перашкодай. Гэта адбываецца ў тым выпадку, калі, напрыклад, будзем вінаваціць яго ў нейкай форме бездухоўнасці. Можна нават нанесці вялікую шкоду асобе, допускаючы толькі адзінае вернае меркаванне, якое зазвычай аказваецца суб'ектыўным.

Крызіс веры не павінен перажывацца як хвароба, якую трэба хутчэй вылечыць. Кожны крызіс – гэта пачатак нечага новага, перыяд, што спрые пераацэнцы светапогляду і мыслення. Гэта таксама час вялікіх духоўных перамен, якія дазваляе Богу дзейнічаць у нашым жыцці.

НАВІНЫ



## НАБАЖЭНСТВА ЗА АДЗІНСТВА ХРЫСЦІЯН

У гродзенскай катэдральнай базіліцы св. Францішка Ксаверыя адбылося экуменічнае набажэнства ў межах Тыдня малітвы аб еднасці хрысціян. У малітве, якую ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, прынялі ўдзел прадстаўнікі Рымска-каталіцкага Касцёла, Грэка-каталіцкай і Праваслаўнай Царкваў, Евангелічна-лютэранскай супольнасці, Царквы поўнага Евангелля "Жывое Слова" (пяцідзясятнікі).

З кароткай прамовай да ўдзельнікаў набажэнства звярнуліся прадстаўнікі прысутных канфесій. Біскуп Кашкевіч падкрэсліў, што экуменічны дыялог неабходны, каб разам узносіць свае просьбы да Бога, каб як мага больш хрысціян вызваліліся ад сваёй маладушнасці і заўважылі надыходзячага Хрыста, каб старанна клапаціліся пра свой унёсак у справу духоўнага адзінства.

Усе прысутныя ў катэдральным касцёле, трымаючыся за рукі, прамовілі малітву "Ойча наш", якой навучыў сваіх вучняў Езус Хрыстус, і перадалі адзін аднаму знак супакою. Прадстаўнікі хрысціянскіх супольнасцей запалілі ад пасхала сімвалічныя свечкі. Як святло Хрыста, яны сталі знакам полымя, прамяні якога асвятляюць увесь свет.

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДУШПАСТЫРСТВЫ



У свята Хросту Пана ў будынку Гродзенскай ВДС адбылася навагодняя сустрэча членаў малітоўнай групы апостальскага руху "Маргарытка". На сустрэчы сабралася каля 300 чалавек з розных куткоў дыяцэзіі, каб падзяліцца аплаткай і выказаць адзін аднаму віншаванні. Прысутныя маліліся ў інтэнцыі ўсіх святароў і аб дары новых пакліканняў да служэння ў Касцёле. Кульмінацыяй сустрэчы стала св. Імша, якую ўзначаліў генеральны вікарый Гродзенскай дыяцэзіі кс. бп Юзаф Станеўскі.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



У Іўі адбыўся XVII Фестываль калядных песень "Gloria in Excelsis Deo". Мерапрыемства сабрала каля 300 удзельнікаў з розных парафій Іўеўскага дэканата. У розных катэгорыях выступілі салісты, дуэты, трыо, квартэты і ансамблі. Ганаровымі гасцямі свята сталі, між іншым, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, прадстаўнікі мясцовай улады і дыпламатычнага корпуса.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Па традыцыі, у семінарыйнай супольнасці прайшоў душпастырскі візіт, г. зв. каляда. Біскуп Юзаф Станеўскі наведаў пакоі клерыкаў і настаяцеляў, асвяціў іх, а жыхарам удзяліў пастырскае баслаўленне на новы год.

### АДНЫМ РАДКОМ



• У Навагрудку адбылася сустрэча сем'яў Асацыяцыі Святой Сям'і пры Кангрэгацыі сясцёр назарэтанак. • Рэкалекцыі для дзяўчат прайшлі ў кляштары сясцёр назарэтанак у Навагрудку. • 30-ты дзень пасля смерці с. Юзэфы Памаранскай адзначылі ў Парэччы (дэканат Гродна-усход). • Хор "Cantate Domino" выступіў з канцэртам у Мірскім замку. • Духоўныя практыкаванні для дзяўчат прайшлі ў доме сясцёр кармэлітак у Адамавічах (дэканат Сапоцкін). • Біскуп Аляксандр Кашкевіч прыняў удзел у пасвячэнні дапаможнага біскупа кс. Адрыяна Гальбаса SAC у Элку (Польшча). • Сустрэча моладзі з парафій, якімі апекуюцца айцы піяры, прайшла ў Шчучыне. • Моладзь з Воранава і Германішкаў прыняла ўдзел у сустрэчы, арганізаванай ксяндзамі палатынамі ў Жлобіне (Пінская дыяцэзія). • "Уікэнд з Богам" быў зладжаны для дзяцей з гродзенскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. • Пры парафіі Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі ў Тракелях (дэканат Радунь) паўстала малітоўная група "Маці ў малітве". • Бл. Эўзэбія ў 750-ую гадавіну яго нараджэння для Неба ўшанавалі ў Карэлічах (дэканат Навагрудак). • Дэканальная сустрэча дзяцей і моладзі прайшла ў Ваўкавыску. • Карнавал для дзіцячага хору адбыўся ў лідскай парафіі Узвышэння Святога Крыжа. • Дзіцячы музычны гурт "Вясёлая грамадка" з Гродна выступіў у парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Росі (дэканат Ваўкавыск).

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

АНОНСЫ

## РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ЮНАКОЎ АДБУДУЦЦА Ў ГУДАГАІ

**Духоўныя практыкаванні пройдуць 7–9 лютага ў кляштары айцоў кармэлітаў.**

Да ўдзелу запрашаюцца хлопцы ад 14-ці гадоў, якія жадаюць паразважаць над жыццёвым пакліканнем. Тэма рэкалекцый – "Не бойся сказаць Богу «так» і адчыніць дзверы свайго сэрца".

*Больш дакладную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 044) 589-68-98 – а. Аляксандр Стока OCD, адказны за пакліканні.*

## ФЭСТ "ДАСТУКАЦЦА ДА НЯБЁСАЎ" ПРОЙДЗЕ Ў БАРАНАВІЧАХ

**Музычны марафон, які штогод збірае музыкаў розных хрысціянскіх канфесій, адбудзецца ў 11-ты раз 8 лютага ў 18.00 у ДКТ "Тэкстыльшчыкаў" (вул. Кірава, 62).**

Арганізатары фестывалю запрашаюць усіх, хто адчувае сябе маладым і хоча славіць Госпада сваім спевам і танцам. Удзельнікам прадстаўляецца добрая магчымасць правесці час з Богам, засведчыць сябрам і знаёмым, якая ёсць хрысціянская вера – жывая і істотная!

*Ахвотным матэрыяльна дапамагчы ў правядзенні фестывалю просьба звязацца з арганізатарам кс. Паўлам Рудзьманам па тэлефоне: (8 029) 709-00-93.*

## АГУЛЬНАБЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ КАНСЭКРАВАНАГА ЖЫЦЦЯ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Сустрэча прадстаўнікоў усіх манаскіх супольнасцей, якія служаць у нашай краіне, адбудзецца 10 лютага.**

Кульмінацыяй сустрэчы стане св. Імша ў гродзенскай катэдральнай базіліцы св. Францішка Ксаверыя.

Праграма:
10.30 – кансэкраванае жыццё ў Беларусі: прэзентацыя супольнасцей *(касцёл св. Францішка Ксаверыя, пл. Савецкая, 4)*;
11.00 – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, магчымасць споведзі;
12.00 – св. Імша з аднаўленнем манаскіх абяцанняў;
13.15 – абед *(Вышэйшая духоўная семінарыя, вул. Парыжскай Камуны, 1)*;
14.00 – семінар на тэму "Quo vadis, persona consecrata?", або "Куды ідзеш, кансэкраваная асоба?" *(Вышэйшая духоўная семінарыя)*;
15.30 – падвядзенне вынікаў;
16.00 – заканчэнне.

*Запрашаюцца кансэкраваныя і духоўныя асобы, а таксама свецкія вернікі, каб разам з пакліканымі да манаства асобамі падзякаваць Богу за выключны дар.*

## ДЗЕНЬ ЗАСЯРОДЖАННЯ ДЛЯ ДЗЯЎЧАТ ПРОЙДЗЕ Ў ЛІДЗЕ

**Сустрэчу, якая адбудзецца 1 лютага, арганізоўваюць Сёстры з Кангрэгацыі Дачок Марыі Беззаганнай (бесхабітовыя).**

На духоўныя практыкаванні запрашаюцца дзяўчаты ад 15-ці гадоў, якія хочуць спаткацца з Богам, маюць што Яму сказаць, хочуць пачуць Яго голас і пачуць сябе.

*З сабой неабходна мець Біблію і нататнік.*

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 029) 986-08-65 – с. Хелена.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**2 лютага 1932 г.** – кс. Юзаф Зноска, *проб. Стараельня;*
**3 лютага 1984 г.** – а. Войцех Навачык OMI, *проб. Навагрудак;*
**3 лютага 1952 г.** – кс. Эдмунд Пяткевіч, *проб. Вялікія Эйсманты;*
**4 лютага 1977 г.** – кс. Казімір Раслеўскі, *проб. Ваўкавыск;*
**4 лютага 1992 г.** – кс. Казімір Баневіч, *ген. вік., проб. Ліда;*
**5 лютага 1910 г.** – кс. Тадэвуш Сідароніч, *проб. Белагруда;*
**9 лютага 2002 г.** – кс. Антоній Рафалка SDB, *проб. Ашмяны.*

## Каляндар падзей

***26 студзеня***
*Сусветны дзень барацьбы з праказай.*
***28 студзеня***
*Успамін св. Тамаша Аквінскага, прэзбітэра і доктара Касцёла.*
***31 студзеня***
*Успамін св. Яна Боско, прэзбітэра.*
***1 лютага***
*6-ая гадавіна біскупскай сакры кс. б-па Юзафа Станеўскага. Молімся ў інтэнцыі дапаможнага біскупа Гродзенскай дыяцэзіі.*
***2 лютага***
*Свята Ахвяравання Пана (Маці Божай Грамнічнай).*
***3 лютага***
*Успамін св. Блажэя, біскупа і мучаніка.*
***5 лютага***
*Успамін св. Агаты, панны і мучаніцы. У святынях адбываецца бласлаўленне хлеба і вады.*
***6 лютага***
*Успамін св. Паўла Мікі і таварышаў, мучанікаў.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Студзень***
*Аб святасці сем'яў.*
*У інтэнцыі сужэнцаў, бацькоў і дзяцей, каб у сваіх сем'ях будавалі сувязі хрысціянскай любові.*
*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

***Люты***
*Аб ласках, патрэбных нашым душпастырам.*
*У інтэнцыі ксяндзоў пробашчаў, вікарыяў, душпастыраў, каб руплівa клапаціліся пра збаўленне душ.*
*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фота- і відэаматэрыялы.*

## Дзіцячы куточак

# Пакліканне да кансэкраванага жыцця

*Прывітанне, Маленькі Чытач! 2 лютага ў Каталіцкім Касцёле адзначаецца свята Ахвяравання Пана. Гэты дзень таксама з'яўляецца Днём кансэкраванага жыцця. Яго ў 1997 годзе ўстанавіў св. папа Ян Павел II для асаблівай малітвы за людзей, якія прысвяцілі сябе служэнню Богу і людзям.*

*Сёстры і браты, падобна Езусу ў Іерусалімскай святыні, ахвяруюць сябе Пану, адказваючы на пакліканне да кансэкраванага жыцця. Напэўна, можа ўзнікнуць пытанне: чым жа з'яўляецца гэтае пакліканне? Каб зразумець сутнасць дадзенага паняцця, прапаную Тваёй увазе маленькую гісторыю з жыцця.*

***Зазвінеў званок на ўрок. Вучні былі здзіўленыя, убачыўшы ў класе іншую настаўніцу замест сваёй, якая ім вельмі падабалася. Гэтую старэйшую жанчыну яны шмат разоў сустракалі ў школе, але не ведалі, хто яна. На дзіва заняткі аказаліся дужа цікавымі. Зоф'я Іванаўна расказвала захапляльныя гісторыі. Вучні хацелі, каб урок працягваўся як мага даўжэй. Яны даведаліся, што настаўніца апошні год працуе ў школе, таму што сыходзіць на пенсію.***

***Пачуўшы гэта, Віця падняў руку.***

***– А колькі гадоў Вы працуеце ў школе? – спытаўся.***

***– Я настаўніца ўжо 40 гадоў. Нават не заўважыла, як хутка прайшоў гэты час, – адказала Зоф'я Іванаўна.***

***– Вы заўсёды хацелі вучыць у школе? – спытаўся хтосьці іншы з вучняў.***

***– Гэта добрае пытанне. Я хацела стаць настаўніцай колькі сябе памятаю, – прамовіла жанчына. – Будучы ў вашым узросце, маёй любімай забавай была гульня ў школу. Аднойчы я засталася адна дома. Матуля затрымлівалася на працы і вельмі хвалявалася за мяне. Калі яна вярнулася дадому, здзівілася таму, што ў кватэры панавала цішыня. Занепакоеная, зазірнула ў мой пакой і ўсміхнулася. Я стаяла пасярэдзіне, а на канапе ў тры рады сядзелі лялькі і плюшавыя мішкі. Яны былі маімі першымі вучнямі. Я марыла, што аднойчы буду стаяць перад сапраўдным класам у сапраўднай школе. Мара здзейснілася! І надалей здзяйсняецца зараз, на гэтым уроку. Мне вельмі падабаецца мая праца і я шчаслівая, што магу сёння сустрэцца з вашым класам.***

***Зазвінеў званок на перапынак. Вучні выходзілі на калідор у задуменнасці. Кожны марыў, кім стане, калі вырасце.***

*Жанчына з апавядання адчула пакліканне стаць настаўніцай і была вельмі шчаслівай, што рэалізавала яго ў сваім жыцці. Слова "пакліканне" складаецца з дзвюх частак: "па" і "кліканне". Ёсць хтосьці, хто кліча, і хтосьці, хто адгукаецца на гэты заклік. Тым, хто кліча, з'яўляецца Бог. Ён заклікае кожнага з нас да таго, каб выбіралі толькі тое, што дапаможа быць лепшымі, кліча нас да святасці. У пакліканні вельмі важна пачуць Таго, хто кліча, запрашае штосьці ўчыніць. Таму трэба мець адкрытае сэрца, каб адгукнуцца на той далікатны заклік.*

*Да некаторых людзей Бог стукаецца вельмі гучна і заклікае паспрабаваць жыць, як Ён, выконваць Яго жаданні. Гэтыя людзі не маюць уласных сем'яў, дзяцей. Іх найвялікшая задача – любіць Езуса і ўсіх навокал. Мы іх называем кансэкраванымі асобамі, братамі і сёстрамі. Яны носяць спецыяльную вопратку, якая называецца хабітам, часам крыж ці ружанец. Важнай справай такіх людзей з'яўляецца малітва, таму яны павінны больш часу прабываць у касцёле ці ў капліцы на размове з Панам. З любові да кожнага чалавека яны пакліканы таксама дапамагаць найперш тым, хто гэтага найбольш патрабуе: дзецям, хворым, бедным, нешчаслівым і кожнаму, хто да іх звяртаецца.*

*Кансэкраванае жыццё – гэта жыццё, цалкам прысвечанае Богу. Ён кліча манаскую сястру альбо брата і хоча, каб тыя былі Яго супрацоўнікамі. Кожны чалавек, які ахвяруе жыццё Богу, складае перад Ім сваю прысягу – шлюбы. Гэтак жа, як бацькі прысягалі вернасць адзін аднаму, калі вырашылі стаць сям'ёй, так асвечаныя людзі прысягаюць Богу чысціню (іх сэрца будзе прысвечана толькі Найвышэйшаму, на першым месцы – толькі Ён), беднасць (найбольшым скарбам для іх стане Бог, будуць думаць пра Божыя, а не пра зямныя багацці) і паслухмянасць (абяцаюць у сваім жыцці больш слухаць Бога, чым сябе, ва ўсім шукаць Яго волю).*

*Пану Езусу і сёння патрэбны чыстыя, адкрытыя сэрцы хлопцаў і дзяўчат, якія адгукнуцца на Яго заклік. Таму мы павінны маліцца аб новых пакліканнях да кансэкраванага жыцця. А можа, калісьці і Ты, дарагі Маленькі Чытач, пачуеш такі заклік ад Бога. Не бойся адказаць Яму "так!". Нябесны Айцец дапамагае адкрыць багацце кансэкраванага жыцця і Ты сапраўды будзеш шчаслівым.*

***Заданне:** пamaліся разам з бацькамі за кансэкраваных асоб, каб яны верна служылі Богу, а таксама аб дары новых пакліканняў да службы Усемагутнаму; даведайся пра сясцёр ці святароў са свайго асяроддзя, якія прысвяцілі сябе Богу ў кансэкраваным жыцці, і пацікаўся аб іх пакліканні і служэнні.*

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

### Паважанаму Ксяндзу Леону Ладышу

з нагоды свят Божага Нараджэння і Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці. Няхай Дзіцятка Езус блаславіць Вас на плённае і доўгае служэнне, а Маці Божая атуляе плашчом мацярынскай апекі.

*З пашанай і малітвай удзячныя вернікі з парафіі Найсвяцейшай Тройцы, Войстам*

### Паважанаму Айцу Пробашчу Валерыю Шэйгерэвічу

з нагоды Імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў. Няхай радасць і дабрыня заўсёды жывуць у Вашым сэрцы, а Найсвяцейшая Панна Марыя атуляе мацярынскай любоўю. Дзякуем за нязгасны запал у святарскай паслузе. Нізкі Вам паклон за дабрыню, мудрыя і добрыя словы.

*З удзячнасцю парафіяне з касцёла св. Францішка Асізскага ў Свіслачы*

### Паважаны Ксёндз Пробашч Юрый Бяганскі!

З нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем Вам самай вялікай любові, бо адчуваем, ведаем і бачым, што Вы так прыгожа рэалізуеце яе ў жыцці, паказваеце яе нам і вучыце ёй нас. Старайцеся з пакорай уваходзіць у чарговыя этапы свайго жыцця, каб не прапусціць важныя і цудоўныя знакі Любові. Няхай гадавіна дня нараджэння стане брамай, у якую ўвойдуць шчасце і здароўе, а на твары паселіцца радасць, апранутая ва ўсмешку. Няхай кожны сустрэты чалавек дзеліцца з Вамі сваёй дабрынёй, Хрыстос – Найвышэйшы і Вечны Святар – благаслаўляе ў намаганнях, якія Вы чыніце для Бога і збаўлення чалавека, а Найсвяцейшая Маці падтрымлівае ў гэтай справе.

*Вернікі з парафіі Наведвання НПМ у Тракелях*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю

з нагоды Дня нараджэння і Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны дзень Вашага жыцця і святарскай паслугі будзе шчаслівы і благаслаўлёны, побач будуць добрыя і зычлівыя людзі, здароўе толькі ўзмацняецца, а ў сэрцы заўсёды жывуць вера, надзея і любоў. 100 гадоў!

*Парафіяне з Галынкі*

### Паважанаму Ксяндзу Каноніку Здзіславу Вэдэру

з нагоды Дня нараджэння жадаю шчодрых Божых ласкаў, благаслаўлення на кожны дзень, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шчодрых дароў Святога Духа, добрага здароўя на доўгія гады, цярплівасці ў службе Богу і людзям. Няхай прамяні з міласэрнага Сэрца Езуса заўсёды асвячаюць Ваш шлях, а паслуга прыносіць шчодры плён.

*З малітвай Аліцыя Воранава са Смаргоні*

### Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Мятліцкаму

з нагоды Дня нараджэння складаю сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, нязгаснага запалу і моцнай веры. Няхай міласэрны Бог і Святы Дух дадаюць сіл і натхнення, а Найсвяцейшая Панна Марыя кожны дзень адорвае чуласцю і цяплом свайго сэрца.

*З малітвай Аліцыя Воранава са Смаргоні*

### Паважанаму Ксяндзу Каноніку Генрыху Яблонскаму

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Пан штодзённа адорвае Вас сваімі ласкамі, моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і поспехамі ў душпастырскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Заступнік Вамі апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае і дапамагае годна перажываць кожны дзень. Няхай побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі, а Ваша праца на Божай ніве прыносіць шчодры плён.

*З памяццю ў малітве вернікі з Забалаці*

### Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку

з нагоды Дня нараджэння жадаем у сваёй святарскай паслузе заўсёды чэрпаць моц з Божай крыніцы і быць для ўсіх у кожным слове голасам Бога, у кожным учынку – Яго дабрынёй, у кожным жэсце – Яго міласэрнасцю. Няхай Бог адорыць Вас доўгім жыццём у здароўі і заўсёды падтрымлівае ў цяжкасцях святарскай паслугі. Заўсёды будзьце шчаслівым і радасным ад служэння Богу і чалавеку. Няхай нястомна побач з Вамі будуць добразычлівыя людзі.

*Вернікі з парафіі св. Андрэя Баболі ў Казловічах і Святой Сям'і ў Верцялішках*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Спірыдону

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: Божага благаслаўлення на кожны дзень, доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, шмат сіл для рэалізацыі Божых планаў, стойкасці, душэўнага супакою, сапраўднай радасці, аптымізму і нязгаснага запалу ў службе Богу і людзям. Жадаем клапатлівай апекі Маці Божай і святога Заступніка, а таксама шчодрых ласкаў ад міласэрнага Пана.

*З павагай і ўдзячнасцю вернікі з парафіі Мсцібава*

### Паважанаму Айцу Томашу Ксёнжкевічу

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, нястомнасці ў абвяшчэнні Божага слова, штодзённай радасці, душэўнага супакою і аптымізму. Няхай Пан Бог благаслаўляе кожны Ваш дзень, а Маці Божая і святы Заступнік заўсёды апекуюцца. Шчасці Божа!

*Парафіяне з Азёраў*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, радасці, душэўнага супакою, заўсёды добрых і зычлівых людзей навокал, а таксама дасягнення ўсіх мэт. Няхай Маці Божая ахоўвае Вас у кожную хвіліну жыцця, а Пан Езус прытуляе да свайго сэрца, абараняе ад няшчасцяў і хвароб, благаслаўляе і дадае сіл для пленнай душпастырскай працы.

*З памяццю ў малітве члены Апастальства дапамогі чысцовым душам з Галынкі*

### Паважаны Ксёндз Валерый Быкоўскі!

З нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем Вам, каб усё задуманае знайшло рэалізацыю ў жыцці, праца прыносіла радасць і задавальненне, вочы ззялі ад шчасця, а на жыццёвым шляху сустракаліся толькі добрыя і зычлівыя людзі. Жадаем моцнага здароўя, сіл, бясконцай веры і Божага благаслаўлення на кожны дзень. Няхай Хрыстос будзе для Вас Сябрам, а Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае плашчом сваёй мацярынскай апекі.

*З памяццю ў малітве члены Апастальства дапамогі чысцовым душам з Вялікіх Эйсмантаў*

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Беланосу

з нагоды Дня нараджэння жадаем добрага здароўя, шмат сіл і цярплівасці. Няхай Хрыстос адорвае сваімі ласкамі, Святы Дух асвячае шлях, Панна Марыя апекуецца Вамі і вядзе найпрыгажэйшай сцежкай да Пана Езуса, а кожны дзень прыносіць радасць.

*Удзячныя парафіяне з Макараўцаў*

### Паважанаму Ксяндзу Андрэю Бураку

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: Божага благаслаўлення, апекі Панны Марыі на кожны дзень. Няхай радасць, любоў, супакой і дабрыня заўсёды жывуць у Вашым сэрцы. Дзякуем за ахвярную працу, мудрыя словы і бацькоўскі клопат пра сваіх парафіян.

*Удзячныя вернікі з в. Даўнары*

### Паважаныя Айцы Вітольд Жэльветра і Віталій Юркевіч, Ксяндзы Юрый Грыцко і Ігар Анісімаў!

Дзякую Пану Богу за тое, што паслаў Вас на мой жыццёвы шлях. Шчыра ўдзячна Вам за веру, любоў, дапамогу, зычлівасць, цярплівасць, добрыя сэрцы і мудрыя словы. Няхай дарога, якой Вы штодзённа крочыце, будзе шчаслівай і благаслаўлёнай, здароўе – моцным, а радасць – нязгаснай. Няхай Маці Божая няспынна апекуецца, а Божы Провід чувае над Вамі.

*Лідзія Юшкевіч*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Яну Пузыну**

ў сувязі з адыходам у вечнасць бацькі Рамуальда, складаем словы спачування і хрысціянскай падтрымкі. Няхай Пан прыме душу памерлага ў сваё Валадарства.

*Вернікі з парафіі Анжадава*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;** заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 348; тыраж 5045; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная